Выдаецца з 16 студзеня 1998 г.
Галоўны рэдактар Ігар Гермянчук
Заснавальнік Павел Жук
Выдавец — рэдакцыя газеты НАВІНЫ
Наклад 12 900.
Адрас для карэспандэнцыі:
220088, г.Мінск,вул. Іванаўская, 56.
Тэл/факс: 236-24-41

# НАВІНЫ



Аўторак, 17 лютага 1998 г. № 14 Кошт свабодны

## СВАБОДА
Забаронена 24 лістапада 1997 г.

## Галоўны беларускі алімпіец



*На здымку: прэзідэнт Нацыянальнага алімпійскага камітэта Аляксандр Лукашэнка на стадыёне ў Нагана.*

**(Працяг тэмы на стар. 2)**

## Грып зачыняе школы

**З пачатку лютага ў Беларусі назіраецца рэзкі рост захворванняў на грып. Як нам паведамілі ў міністэрстве аховы здароўя, пік эпідэміі яшчэ наперадзе.**

Між тым, ужо цяпер колькасць заражэнняў грыпам вірусу А і Б перавысіла сярэдні сезонны ўзровень гэтага захворвання ў 3—4, а ў Мінску — у 5 разоў. У сталіцы абвешчаны 10-дзённы каранцін для навучэнцаў малодшых і сярэдніх класаў шэрагу школаў. Па словах спецыялістаў Мінскай гарадской санэпідэмстанцыі, рашэнне аб увядзенні каранціну прымаецца ў тым выпадку, калі «на працягу трох дзён назіраецца моцны ўсплеск эпідэміі». Аднак эпідэміёлагі лічаць, што калі ў бліжэйшы час захаваецца адносна цёплае надвор'е, рост захворванняў можа спыніцца: грып у першую чаргу бярэ тых, хто перастыў.

Па краіне вядзецца выбарачная вакцынацыя — людзям робяць прышчэпкі супраць грыпу. Аднак, на думку спецыялістаў міністэрства аховы здароўя, яна, на жаль, малаэфектыўная. Вакцыны расійскай вытворчасці кепскай якасці і даюць слабую абарону ад грыпу. А на закупку больш эфектыўных заходніх лекаў у міністэрства папросту не хапае сродкаў.

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ**

## Нелегальны пікет

**Пасля 10-дзённай адсідкі актывісты Віцебскай рады БНФ «Выбар» Барыс Хамайда і Юрый Мароз зноў наладзілі пікет у цэнтры горада.**

Апазіцыянеры наўмысна не звяртаюцца па дазвол на пікетаванне да ўладаў, бо не прызнаюць прэзідэнцкага заканадаўства. Міліцыя зноў даставіла франтаўцаў у суд Чыгуначнага раёна да іх добрай знаёмай суддзі Святланы Туфан, той самай, якая адмерыла ім па 10 сутак. На гэты раз суддзя была настроена больш міралюбіва і аштрафавала Юрыя Мароза на 37 мільёнаў рублёў, а Барыса Хамайду і апраўдала.

**А.Н.**

## Літоўцы святкуюць незалежнасць

**У нядзелю ў Гродне абласным аб'яднаннем літоўцаў «Тэвінэ» было адзначанае 80-годдзе з дня абвяшчэння 16 лютага 1918 года незалежнасці Літоўскай Рэспублікі.**

На вечарыне ў тэатры Тызенгаўзена прысутнічаў першы сакратар літоўскага пасольства ў Мінску Гінтаўтас Шуліс. Са сталіцы таксама прыехала старшыня літоўскай абшчыны Беларусі Вяргінія Тарнаўскайтэ. На вечарыне выступіў літоўскі хор з вёскі Пеляса Воранаўскага раёна, а таксама госці з Друскенікаў. Гродзенскія ўлады на запрашэнне не адгукнуліся. У іх у гэты дзень было больш важнае мерапрыемства — адзначалі ўгодкі заканчэння савецка-афганскай вайны.

16 лютага літоўскае пасольства наладзіла ў Мінску афіцыйны прыём з нагоды дня незалежнасці, запрасіўшы больш за 200 асобаў.

З нагоды свята ў сталічнай Нацыянальнай бібліятэцы адкрылася выстава літоўскай кнігі, а ў мінскім доме дружбы — выстава фотамастака Рамуальдаса Дыхавічуса пад назвай «Вечная крыніца». Крыніцай натхнення для яго з'яўляецца аголеная жаночая натура.

У наступным месяцы мы таксама будзем адзначаць такія ж угодкі, як і ў літоўцаў, — 80-годдзе з дня абвяшчэння незалежнасці Беларускай Народнай Рэспублікі. Але адрозна ад іх адзначаць мы будзем па-ранейшаму неафіцыйна.

**Сяргей АСТРАЎЦОЎ**

*Заўтра*

## Суд над Лабковічам і Шыдлоўскім

**У сераду, 18 лютага, у 10 гадзінаў раніцы ў Мінскім абласным судзе пачнецца працэс над Вадзімам Лабковічам і Аляксеем Шыдлоўскім.**

Справу палітвязняў будзе разглядаць суддзя Уладзімір Лаўроў. На жаль, ён адмовіўся адказваць на пытанні, звязаныя з будучым працэсам. Нічога не паведаміў сп.Лаўроў і аб тым, ці даводзілася яму раней разглядаць справы па аналагічных абвінавачваннях. Нагадаем, што Лабковічу і Шыдлоўскаму інкрымінуюць злоснае хуліганства, здзек над дзяржаўнымі сімваламі ды пашкоджанне гісторыка-культурных каштоўнасцяў. Як лічыць следства, гэта менавіта Лабковіч і Шыдлоўскі распісалі будынкі ў Стоўбцах антыпрэзідэнцкімі лозунгамі, сарвалі чырвона-зялёны сцяг з райвыканкама ды аблілі фарбай помнік Дзяржынскаму. Хаця віна хлопцаў у гэтых злачынствах яшчэ не даказаная, яны ўжо адседзелі ў следчым ізалятары 176 сутак.

Бараніць у судзе Вадзіма Лабковіча і Аляксея Шыдлоўскага будуць адвакаты Іван Дудараў і Таццяна Станкевіч. Яны сцвярджаюць, што ўжо ўзнікалі пэўныя цяжкасці з падрыхтоўкай да працэсу: на працягу мінулага тыдня адвакатам так і не ўдалося сустрэцца са сваімі падабароннымі. Дазвол на сустрэчу павінен быў даць суддзя Лаўроў, але ён праваў гэтыя дні ў камандзіроўцы.

**Алесь ПАЎЛОВІЧ**

## Спыхальска завяршыла працу ў Беларусі

**Пасол Польшчы ў Беларусі Эва Спыхальска ў нядзелю пакінула тэрыторыю нашай краіны.**

Напярэдадні яна сустрэлася з першым віцэ-прэм'ерам беларускага ўрада Пятром Пракаповічам і паведаміла, што прыняла рашэнне аб сваёй адстаўцы дзеля таго, каб не ўскладняць адносіны паміж прэзідэнтам Аляксандрам Квасьнеўскім і міністрам замежных справаў Беларусі Браніславам Герэмэкам. Як вядома, польскі прэзідэнт выступаў за тое, каб пані Спыхальска працягвала ўзначальваць амбасаду ў Мінску, а кіраўнік знешнепалітычнага ведамства дамагаўся яе адстаўкі. Спыхальска сказала, што па вяртанні ў Варшаву яна будзе працаваць у адміністрацыі прэзідэнта Квасьнеўскага.

Першапачаткова планавалася, што Эва Спыхальска пакіне Беларусь пасля візіту Браніслава Герэмэка, які павінен наведаць Мінск у якасці старшыні АБСЕ 27 лютага і адкрыць пастаяннае прадстаўніцтва гэтай міжнароднай арганізацыі ў нашай краіне. Учора, дзеля кансультацыяў адносна праграмы візіту Герэмэка, у беларускую сталіцу прыбыў прадстаўнік польскага МЗС Марэк Зюлкоўскі.

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ**

# Клімаў абвясціў галадоўку

**Справу дэпутата і прадпрымальніка Андрэя Клімава, арыштаванага на мінулым тыдні, улады пакрылі заслонаю строгай сакрэтнасці.**

У адваката Вольгі Зудавай, якая абараняе А.Клімава, узялі падпіску аб неразгалашэнні ўсіх абставінаў, звязаных з гэтай справай. Ніякіх звестак пра арыштанта не даюць нават бліжэйшым сваякам.

У пятніцу (13 лютага) маці і жонка Андрэя Клімава прыватным чынам даведаліся, што яго ў другой палове дня павязуць у пракуратуру г.Мінска, і рушылі туды. Прыблізна а 16-й гадзіне яго сапраўды туды прывезлі і ў наручніках вывелі з машыны. Памочнікі следчага, якія суправаджалі Клімава, катэгарычна забаранілі жанчынам з ім размаўляць і наогул паводзілі сябе груба. Калі маці паспрабавала наблізіцца да Андрэя, адзін з памочнікаў адштурхнуў яе так, што жанчына ўпала. Маці толькі паспела крыкнуць Андрэю: «Пра цябе пішуць газеты!» — пасля чаго ён прыкметна ажывіўся.

Па словах жонкі арыштанта, Таццяны Клімавай, Андрэй за тры дні зняволення відавочна пахудаў і ў яго вельмі нездаровы колер твару. Зрэшты, гэта, не дзіўна. Як мы ўжо паведамлялі ў мінулым нумары, Клімаў з самага пачатку зняволення адмовіўся ад харчавання. А знаходзячыся ў пракуратуры, ён афіцыйна абвясціў галадоўку, прычым адмовіўся прымаць не толькі ежу, але і ваду, і нават медыкаменты. Шляхам галадоўкі Клімаў пратэстуе супраць таго, што яго затрымалі насуперак Канстытуцыі, па якой ён мае статус дэпутацкай недатыкальнасці. «Прашу давесці гэты факт да ведама грамадскасці краіны і групы АБСЕ, што знаходзіцца ў Мінску», — звярнуўся А.Клімаў да намесніка пракурора сталіцы.

У адзін дзень з Клімавым былі затрыманыя супрацоўнікі ягонай фірмы: намеснік па вытворчасці і галоўны бухгалтар. Па сваіх каналах мы змаглі даведацца, што ў пятніцу галоўны бухгалтар быў адпушчаны пад падпіску аб нявыездзе, а намесніку Клімава прад'яўлена абвінавачванне (але невядома, па якім артыкуле). Што ж тычыцца самога Клімава, дык намеснік гарадскога пракурора, азнаёміўшыся з матэрыяламі следства, не палічыў іх дастатковымі для абвінавачвання. Аднак пракурор не адпусціў Клімава, а падоўжыў тэрмін трымання пад вартаю да 10-ці сутак.

Такім чынам, пасля масіраваных праверак прадпрымальніцкай дзейнасці А.Клімава, якія працягваліся больш за год, улады не здолелі «накапаць» крыміналу. Нават у нашых не надта прававых умовах матэрыялу не хапіла на абвінавачванне. Значыць, можна сабе ўявіць, ці былі рэальныя, а не надуманыя, падставы для «справы Клімава».

**Вадзім КАЗНАЧЭЕЎ**

# Моладзь - за любоў

## Ва ўсіх сэнсах гэтага слова

*«Беларуская моладзь выйшла на вуліцу не таму, што яна ненавідзіць Расію ці не любіць Лукашэнку, а таму, што любіць Беларусь»,* — заявіў у суботу перад пачаткам апазіцыйнага шэсця лідэр Маладога Фронту Павел Севярынец.

Аднак маладзёжнага выбуху на гэты раз не адбылося. На мінскую плошчу Я.Коласа, дзе пачыналася спартова-палітычная акцыя маладафронтаўцаў, прымеркаваная да Алімпійскіх гульняў у Нагана, прыйшло не больш за 600 чалавек. Пакуль народ збіраўся на плошчы, каб рушыць адтуль да Опернага тэатра (месца правядзення мітынгу), некалькі мабільных групаў маладых апазіцыянераў наведалі амбасады краінаў Еўропы, ЗША і Японіі і перадалі дыпламатам лісты наступнага зместу: *«Шаноўны спадар амбасадар! Мы, прадстаўнікі беларускай моладзі, сябры Маладога Фронту, сёння, 14 лютага, у дзень св.Валянціна, дзень закаханых, гадавіны правядзення шэсця «Беларусь у Еўропу», у час, калі палае агонь Алімпійскіх гульняў у Нагана, вітаем вас, ваш народ і вашую краіну з гэтымі святамі. Зычым шчасця і кахання вам, поспехаў вашай алімпійскай камандзе ў Японіі і заўляем — маладыя беларусы бачаць сваю краіну на працягу вольнай Еўропы пад абаронай NATO, а не ў задушлівых абдымках чырвона-карычневага расійскага рэваншу. Маладыя беларусы супраць палітыкі канфрантацыі з Еўропай, якую праводзіць рэжым Лукашэнкі. Мы супраць дыскрымінацыі нацыянальнай культуры, уціску свабоднага слова, супраць рэпрэсій — калі за лозунг «Жыве Беларусь», напісаны на плоце, школьніка паўгода трымаюць у турме, а студэнта выключаюць з універсітэта. 16-гадовага Вадзіма Лабковіча, 19-гадовага Аляксея Шыдлоўскага і 23-гадовага Вадзіма Кабанчука трымаюць за кратамі вось ужо 5 месяцаў без суда. Маладыя беларусы будуць змагацца за сваю Беларусь і сваю Еўропу не толькі сілай, але і розумам, не толькі эмоцыямі, але і разважлівасцю, не толькі з болем, але і са смехам. Разам з вамі мы пераможам. Жыве вольная Еўропа! Жыве Беларусь!»*




*На здымку: адсюль, з плошчы Якуба Коласа, моладзь рушыла на мітынг да Опернага тэатра.*

Хаця мерапрыемства маладых апазіцыянераў было афіцыйна дазволенае, аднак па ўсім шляху шэсця калоны стаялі міліцэйскія нарады. Відаць, улады баяліся, што моладзь можа змяніць маршрут і, як летась, накіраваць калону ў паход па амбасадах. Але гэтым разам мерапрыемства прайшло надзвычай мірна. Акцыя скончылася жартоўным заклікам да моладзі ў дзень св.Валянціна актыўна займацца каханнем, каб палепшыць дэмаграфічную сітуацыю ў краіне.

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ**

*Расійскі газ*

## Даўгі растуць

**Крытычная сітуацыя ўзнікла ў Беларусі з аплатай паставак расійскага газу.**

Першы віцэ-прэм'ер Пётр Пракаповіч прывёў наступныя лічбы: з пачатку 1998 года нашая краіна запазычыла Расіі за ўжыты газ 80 мільёнаў долараў ЗША. Такім чынам, адзначыў віцэ-прэм'ер, фактычна за адзін месяц Беларусь запазычыла Расіі за газ больш, чым за папярэднія два гады.

*БелаПАН*

## Мінчане пра выбары прэзідэнта

**Цяпер вядуцца спрэчкі, калі павінны адбыцца прэзідэнцкія выбары: у 1999 годзе (паводле Канстытуцыі 1994 года) ці на два гады пазней — у 2001 годзе, як сцвярджае прэзідэнцкі варыянт Асноўнага закона.**

Сацыялагічная служба БелаПАН апытала рэспандэнтаў — жыхароў беларускай сталіцы ва ўзросце ад 16 гадоў і старэйшых. Ім было прапанавана адказаць на пытанне, калі неабходна праводзіць выбары прэзідэнта — у 1999 або ў 2001 годзе. Каля паловы (45%) рэспандэнтаў выказаліся за 1999 год; кожны чацвёрты (24%) арыентуецца на 2001 год. 20% мінчанаў лічаць, што «выбары нічога не дадуць», таму ўсё роўна, калі іх праводзіць. 11% апытаных было цяжка адказаць на пастаўленае пытанне.

Сярод тых, хто арыентуецца на правядзенне выбараў прэзідэнта ў 1999 годзе, больш як палова — асобы ва ўзросце да 40 гадоў; 90% з іх маюць сярэднюю або вышэйшую адукацыю. Тыя, хто лічыць, што прэзідэнцкія выбары трэба праводзіць у наступным тысячагоддзі, прадстаўлены ў большасці сваёй людзьмі ва ўзросце старэй за 40 гадоў і з нізкім узроўнем адукацыі.

*БелаПАН*

## Крэсла Антончыка для Івана Ціцянкова

**У мінулую пятніцу на кватэру былога дэпутата Сяргея Антончыка заявіўся судовы выканаўца з мэтаю канфіскацыі «на карысць Івана Ціцянкова» канапы і двух крэслаў.**

Гэтая гісторыя пачалася тры гады таму (у снежні 1994 г.), калі парламентарый Сяргей Антончык выступіў на сесіі Вярхоўнага Савета з дакладам аб карупцыі ў камандзе прэзідэнта. Кіраўнік справамі Іван Ціцянкоў, які ўзгадваўся ў гэтым дакуменце як галоўны карупцыянер, спачатку нават заявіў, што падае ў адстаўку. Аднак Лукашэнка вырашыў «сваіх» не здаваць і забараніў друкаваць даклад Антончыка ў газетах, якія выйшлі тады з белымі плямамі. Галоўных рэдактараў прэзідэнт зняў з пасадаў. Апублікавала даклад газета СВАБОДА. За гэтую правіннасць ёй забаранілі друкавацца ў Беларускім доме друку.

Іван Ціцянкоў падаў на Антончыка ў суд. Справа была вырашаная на карысць «заўхоза», маральныя страты якога суд ацаніў у 200 мільёнаў рублёў. Каб пагасіць «доўг» Ціцянкову, судовыя выканаўцы пачалі канфіскоўваць мэблю Антончыка. Спачатку забралі кухонны гарнітур на 1 мільён рублёў (па тых цэнах) і канапу на 500 тысячаў. І вось цяпер прыйшлі за новай партыяй маёмасці Антончыка — канапай і двума крэсламі, якія судовы выканаўца ацаніў у 500 тысячаў рублёў. Аднак крама, праз якую суд рэалізуе «каштоўнасці» Антончыка, вырашыла на свае вочы пераканацца, ці можна прадаць мэблю, і прыслала эксперта. Эксперт, убачыўшы канапу і крэслы, сказаў, што такое «багацце» ніхто не купіць нават за 100 тысячаў рублёў, таму няма сэнсу канфіскаваць маёмасць. На тым і развіталіся.

Дарэчы, судовы выканаўца штомесяц знянацку наведвае кватэру былога дэпутата і аглядае кожны пакой. *«Грашовых рахункаў, дачы ці аўтамабіля не маю, таму і палююць на мэблю. Калі б у хаце была срэбная лыжка, то і яе забралі б. Што апішуць у наступны раз, не ведаю»,* — кажа Сяргей Антончык.

**Алесь ДАШЧЫНСКІ**

## Англічане парадніліся з Бабруйскам

**Нечаканая для сябе і сваіх бацькоў знайшоў паратунак у Вялікабрытаніі 14-гадовы жыхар Бабруйска Андрэй Асіпенка.**

Газета СВАБОДА ўжо паведамляла, як некалькі месяцаў таму ў англійскім горадзе Чэстэр хлопчыку зрабілі складаную аперацыю. Аперацыю Андрэю ўзялася забяспечыць сям'я Эрбсаў, у якіх хлопец жыў на аздараўленні. Яны пачалі збор неабходных 20.000 фунтаў стэрлінгаў. У гэтым ім дапамаглі прэса, мэр горада, іншыя зусім незнаёмыя людзі, якія адгукнуліся на бяду беларускага хлопца. Напрыклад, жыхар Чэстэра Пітэр Бамфорд адзначыў сваё 50-годдзе пешым паходам на 50 міль: падчас паходу Пітэр збіраў грошы для Андрэя. Хірург Дэвід Кэмбэл разам з усёй аперацыйнай брыгадай вырашылі лячыць хлопчыка бясплатна. Сабраныя грошы пайшлі на тое, каб аплаціць транспартныя выдаткі сям'і Асіпенкаў (на аперацыю ён ляцеў з маці) і 2-месячнае знаходжанне ў Англіі.

Увагу да лёсу 14-гадовага грамадзяніна Беларусі праявіў ледзь не ўвесь горад. Яму даслалі шмат падарункаў, завіталі дзесяткі людзей, быў мэр горада з жонкай. Самай цяжкай Андрэй назваў ноч пасля аперацыі. Цяпер яму лепш, але чакаецца яшчэ адна аперацыя, якую зноў забяспечаць брытанцы.

**Сымон ГЛАЗШТЭЙН**

# Лекі ад амерыканцаў



**У мінулую суботу ў Мінск са Злучаных Штатаў Амерыкі прыляцеў груз гуманітарнай дапамогі для беларускіх шпіталяў: арганізацыя *City Hope International* аднавіла сваю дабрачынную дзейнасць. Амерыканскі самалёт дапамагалі разгружаць беларускія салдаты.**

Арганізацыя *City Hope International*, на чале якой стаіць святар Пол Мур, распачала гуманітарныя праграмы ў Беларусі ў 1990 годзе, з таго часу аб'ём дапамогі перавысіў 180 мільёнаў долараў. У апошнім самалёце — лекі і медычныя сродкі на агульную суму ў 2,3 мільёна долараў. У праекце ўдзельнічалі 15 фармацэўтычных кампаніяў ЗША і некалькі дабрачынных арганізацыяў, у тым ліку *Project Hope* і Сусветны фонд дапамогі беларускім дзецям. Атрымальнікамі дапамогі стануць Мінскі абласны радзільны дом, сталічныя бальніцы №1, 4, 9, Рэспубліканскі онкагематалагічны цэнтр, абласныя бальніцы Магілёва і Гомеля. Сродкі на авіяперавозку далі Дзярждэпартамент і Міністэрства абароны ЗША.

На прэс-канферэнцыі пасол Злучаных Штатаў Дэніэл Спекхард адзначыў, што вельмі важна захаваць і развіваць дружалюбныя адносіны паміж народамі ЗША і Беларусі — нягледзячы на палітычныя абставіны. Ён падкрэсліў, што амерыканскі народ разумее, з якімі праблемамі сутыкаюцца беларусы ў працэсе пераходу да дэмакратыі і эфектыўнай рынкавай гаспадаркі, а таму гатовы дапамагаць у перааддоленні цяжкасцяў. Пол Мур адзначыў, што гэтая акцыя — не адзіная і не апошняя: нягледзячы на тое, што не ўдалося дасягнуць паразумення з беларускімі ўладамі па ўсім спектры гуманітарнай дапамогі (П.Мур меў спецыяльную сустрэчу з А.Лукашэнкам год назад), супрацоўніцтва будзе працягнутае — але толькі ў медычнай сферы: беларускі ўрад ніколі не ствараў перашкодаў у пастаўцы медыкаментаў, але праблема абкладання харчовай дапамогі вельмі высокімі падаткамі засталася нявырашанай.

Партнёрам *City Hope International* у Беларусі выступае арганізацыя «Надзея — Экспрэс». Адказваючы на пытанне карэспандэнта НАВІНАЎ, яе кіраўнік доктар Міхаіл Собаль паведаміў, што гуманітарная дапамога накіроўваецца туды, дзе яна будзе выкарыстаная з максімальным эфектам. М.Собаль падкрэсліў, што па іхняй лініі ў Беларусь пастаўляюцца вельмі спецыяльныя, самыя сучасныя медыкаменты, таму іх атрымліваюць тыя медычныя ўстановы, дзе працуюць высокакваліфікаваныя лекары. П.Мур і М.Собаль выказалі надзею, што супрацоўніцтва працягнецца і ў наступным тысячагоддзі.

Каментуючы пастанову Мінскага абласнога гаспадарчага суда аб зьмяншэнні штрафных санкцыяў да Беларускага фонду Сораса з 3 млн. долараў да 80 тысячаў, пасол ЗША Дэніэл Спекхард сказаў, што ён асабіста задаволены гэтым рашэннем. Аднак у Беларусі ўсё залежыць ад выканаўчай улады, і варта пачакаць, ці прэзідэнцкая вертыкаль не апрэчыць судовае рашэнне, адзначыў пасол.

**Магдалена НЕПАКАЙ**

*Адчуйце розніцу*

# Два Аляксандры, два прэзідэнты

Аляксандр Квасьнеўскі прыбыў у Японію па запрашэнні Міжнароднага алімпійскага камітэта. Правёўшы ў Нагана шэсць дзён, напоўненых спартовымі эмоцыямі, прэзідэнт Польшчы А.Квасьнеўскі распачаў трохдзённы візіт у Токіо.

У чацвер ён сустрэўся з прэм'ерам Японіі Руйтарам Хасімотам. Найважнейшым вынікам сустрэчы было пагадненне аб бязвізавым турыстычным руху паміж Польшчай і Японіяй. Польшча стала другой посткамуністычнай краінай (услед за Венгрыяй), што ўводзіць з Японіяй бязвізавы рэжым для турыстаў і бізнесменаў.

Прэзідэнт А.Квасьнеўскі і прэм'ер Р.Хасімота пагадзіліся, што будуць рабіць усё, каб «задаць новы рытм польска-японскім палітычным адносінам». Палітычныя кансультацыі, якія праводзяцца паміж абодвума бакамі ўжо некалькі гадоў, будуць прадоўжаныя ў сакавіку гэтага года ў Варшаве.



*Прэзідэнт Польшчы Аляксандр Квасьнеўскі і прэм'ер-міністр Японіі Руйтара Хасімота задаволеныя перамовамі.*

Шмат часу прэзідэнт Квасьнеўскі прысвяціў спатканням з японскімі бізнесменамі. А.Квасьнеўскі сустрэўся з прадстаўнікамі карпарацыяў, што інвестуюць у польскую эканоміку. На абедзе, які ў гонар А.Квасьнеўскага дало таварыства Эміры, прэзідэнт распавёў аб палітычных і прамысловых дасягненнях Польшчы. Ён таксама наведаў праўленне ўплывовай арганізацыі прамыслоўцаў Кейданрэн і спаткаўся з яе старшынёй Сёхіта Таёда, які ўзначальвае карпарацыю *Toyota*. Вынікам гэтай сустрэчы, паводле каментарыяў японскай прэсы, можа стаць будаўніцтва ў Польшчы фабрыкі запасных частак для аўтамабіляў, якія *Toyota* выпускае ў Францыі.

*Rzecz Pospolita, 13.02.98.*

Кіраўнік беларускай дзяржавы Аляксандр Лукашэнка, а ён таксама з'яўляецца прэзідэнтам Нацыянальнага алімпійскага камітэта рэспублікі, які цяпер знаходзіцца на зімовых Гульнях-98 у Нагана, сустрэўся са сваімі землякамі — спартсменамі, трэнерамі, кіраўнікамі дэлегацыі.

Прэзідэнт цёпла павіншаваў біятланіста Аляксандра Айдарава з бронзавай узнагародай, якой ён удастоіўся ў гонцы на 20 кіламетраў, і прысвоенням яму афіцэрскага звання.

У гутарцы з галоўным трэнерам зборнай па біятлоне Уладзімірам Плаксіным Аляксандр Лукашэнка падкрэсліў, што галоўнае — гэта зацвердзіць у Беларусі біятлон у якасці прыярытэтнага зімовага віду спорту разам з хакеем.

Не засталіся без увагі прэзідэнта біятланісты Аляксандр Папоў, Алег Рыжанкоў і Вадзім Сашурын, якія дастойна прадстаўляюць рэспубліку на спартыўным форуме ў Нагана. Ён таксама запрасіў фігурыстаў Таццяну Наўка і Мікалая Марозава пасля завяршэння спартыўнай кар'еры заняцца трэнерскай дзейнасцю ў роднай Беларусі. Прэзідэнт пабываў у доме, дзе пражывае алімпійская дэлегацыя нашай краіны.

*БЕЛТА, 13.02.98.*



*Прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка і віцэ-прэм'ер Уладзімір Замяталін бавяць час на стадыёне ў Нагана.*

**Дададзім да паведамлення БЕЛТА, што прэзідэнт Беларускага алімпійскага камітэта прыляцеў у Нагана на прэзідэнцкім самалёце разам з сынам і світай каля 20 чалавек. Японскае МЗС папярэдзілі аб гэтым толькі напярэдадні. Паветраны калідор для пралёту лайнера давалі ў спешным парадку.**

 



# СМЯРОТНАЕ ПАКАРАННЕ

**Алесь ДАШЧЫНСКІ**

За тры апошнія гады ў нашай краіне былі расстраляныя 103 чалавекі, прыгавораныя судамі да вышэйшай меры пакарання. «Вышку» ў нас даюць за наўмыснае забойства. У выключных выпадках расстрэльваюць за згвалтаванне малалетніх, за замах на жыццё работніка міліцыі і некаторыя іншыя злачынствы. 58 чалавек, якія цяпер чакаюць выканання смяротных прысудаў, асуджаныя за наўмысныя забойствы. Характэрна, што сярод злачынцаў усё больш трапляецца маладзейшых людзей.

Пасля атрымання копіі прыгавору асуджаны мае права абскардзіць смяротны прысуд. Калі нават злачынца адмаўляецца ад гэтай працэдуры (такое здараецца рэдка), справа ўсё адно накіроўваецца ў касацыйную інстанцыю (Вярхоўны суд), дзе яна разглядаецца каля двух месяцаў. Пасля гэтага асуджаны мае права звярнуцца з наглядной скаргай і нарэшце ў камісію па памілаванні. Апошні подпіс пад справай ставіць прэзідэнт Лукашэнка, які пакуль не памілаваў ніводнага асуджанага. Кажуць, што ён нават не паглыбляецца ў дэталі кожнай справы і накіроўвае чалавека на смерць, кіруючыся вывадамі папярэдніх інстанцыяў.



## У чаканні смерці

На «Валадарцы» для смертнікаў адведзены спецыяльны блок, сядзяць яны ў адзіночных камерах. Але тыя, чые справы толькі пачалі шлях да памілавання, могуць утрымлівацца з-за перанаселенасці турмы ў чатырохмесных камерах. Смертнікаў не выводзяць на шпацыр, а блізкія не маюць права прынесці ім перадачу. Па пошце штомесяц можна пераслаць 300 тысячаў рублёў на цыгарэты і цукар. Спатканні з роднымі дазваляюцца адзін раз у месяц па 10—15 хвілін. Размова адбываецца цераз шкло. Асуджанага прыводзяць у наручніках, і спатканне праходзіць у прысутнасці некалькіх міліцыянтаў.

Выкананне прысуду ў нашай краіне смяротнікі чакаюць прыкладна год (у некаторых краінах — дзесяткі гадоў). Амерыканскі крыміналіст Роберт Джонсан зрабіў выснову, што за час чакання ў асуджаных наступае «смерць асобы». Бяздзейнасць і ізаляцыя вымушае іх думаць пра будучае смяротнае пакаранне, якое з'яўляецца ў начных кашмарах. Асуджаныя не жадаюць частых сустрэчаў з блізкімі, імі авалодвае дэпрэсія і апатыя. Псіхолагі сцвярджаюць, што чаканне кары — гэта адно з самых цяжкіх катаванняў асобы, якая страціла свабоду. Аднойчы настае дзень, калі, не атрымаўшы памілавання, прыгавор накіроўваецца на выкананне.

Чыноўнікі з міністэрства ўнутраных справаў адмовіліся гаварыць аб працэдуры самой смяротнай кары, параілі наогул не брацца за гэтую тэму, маўляў, «згубіш шмат часу і нічога не даб'ешся». Сапраўды, пра тое, як выконваецца прысуд, ведаюць адзінкі, усё засакрэчана і пакрыта таямніцай.

## Расстрэл

**Генерал Юрый Захаранка, калі быў міністрам унутраных справаў, вырашыў вывучыць працэдуру выканання смяротных прысудаў. Пра некаторыя дэталі экзекуцыі, якая штомесяц здараецца ў Беларусі, Ю.Захаранка ўпершыню распавядае для прэсы.**

— Смяротныя прыгаворы выконваюцца ў нас з выкарыстаннем сярэдневяковых метадаў. Ужываецца самы просты і танны спосаб — расстрэл.

Суды выносяць смяротныя пакаранні ў розных гарадах, але расстрэльваюць асуджаных у адным, спецыяльна адведзеным месцы. Напярэдадні экзекуцыі праводзіцца «зачыстка» мясцовасці, каб не аказаліся якія-небудзь выпадковыя сведкі. Глыбокай ноччу злачынцаў (звычайна збіраюць па некалькі чалавек) пагружаюць на спецыяльную машыну. Рот ім затыкаюць кляпам, каб не дай Бог не закрычалі. З-за псіхічнага зломy некаторыя ўжо не могуць рухацца, і такіх асуджаных цягнуць да магілы за рукі.

Спецыяльныя супрацоўнікі МУС страляюць прама ў галаву — з вушэй і рота чалавека патокам л'ецца кроў. Часам прыгавораны знаходзіцца ў шокавым стане, і ў яго страляюць па некалькі разоў, а ён не траціць прытомнасці. Гэта жудаснае, кашмарнае відовішча. Пасля выканання прысуду адбываецца пахаванне (калі гэта так можна назваць) расстраляных. Іх закопваюць так, як яны зваліліся ў яму, усіх разам. Цела забітага ніколі не выдаюць блізкім, нават іхняе адзенне не аддаюць. Нікому не паведамляюць, дзе і калі быў расстраляны асуджаны. Блізкія не атрымоўваюць апошняга развітальнага спаткання. З суда ім прысылаюць паперу, што чалавек памёр, прысуд выкананы. ЗАГС выпісвае пасведчанне аб смерці. Усе гэтыя пытанні рэгламентаваныя не законам, а інструкцыямі МУС.

На ролю ката падбіраюцца спецыяльныя людзі, якія валодаюць моцнай сілай волі — не кожнаму ж пад сілу штомесячна расстрэльваць людзей. Але іх таксама нельга доўга выкарыстоўваць, бо дэфармуецца псіхіка. Дарэчы, некаторыя суседнія краіны пасля распаду Савецкага Саюза аказаліся негатовымі для выканання смяротных пакаранняў. Яны спрабавалі нават заключыць дамову, каб іх смертнікаў расстрэльвалі ў нашай краіне за адпаведную плату. Я катэгарычна адмовіўся ад такой здзелкі і пачаў рыхтаваць прапановы прэзідэнту аб пераглядзе самой працэдуры выканання смяротных прысудаў. Менавіта ў гэты час я пайшоў у адстаўку і нічога не паспеў зрабіць. Тым часам варварства працягваецца.

**— Юрый Мікалаевіч, цяпер многія чыноўнікі МУС, пракуроры і суддзі спрабуюць пераканаць грамадства, што без смяротнай кары немагчыма абысціся, бо злачыннасць проста расквітнела. Колькасць смяротных прысудаў павялічваецца.**

— Сярэдневечча ідзе ад самога Лукашэнкі, якога мне цяжка назваць прэзідэнтам, бо ў маім уяўленні прэзідэнт павінен мець вышэйшыя маральныя якасці і свяшчэнна захоўваць Канстытуцыю і законы краіны. Дастаткова паслухаць ягоныя прамовы, у тым ліку на пахаванні Мікалуцкага. Гэты чалавек, наогул, не разумее працэсы, якія адбываюцца ў грамадстве, бо не падрыхтаваны для кіравання краінай. Для вырашэння ўсіх праблемаў улады ідуць на «беспредел». У грамадства фармуецца патрэбнасць на жорсткасць адказваць жорсткасцю. Па меры станаўлення дыктатарскага рэжыму павялічваецца колькасць злачынстваў. На 100 тысяч насельніцтва ў нас прыпадае больш злачынстваў, чым у любой іншай краіне Еўропы. Кошт чалавечага жыцця падае. Безвыходнасць, сацыяльны крызіс штурхаюць людзей да самагубстваў (каля трох тысячаў штогод), і колькасць іх кожны год прырастае на 14—16 працэнтаў. Неўладкаванасць у жыцці, расчараванасць прыводзіць да забойстваў, якія нярэдка здараюцца знянацку. У мінулым годзе больш за 300 забойстваў адбылося на бытавой глебе, і многія з іх кваліфікуюцца як цяжкія.

Дзяржава сама раскручвае махавік злачыннасці з-за сваёй бяздзейнасці. У выніку за апошнія некалькі гадоў кожны пяты грамадзянін нашай краіны прыцягваўся да крымінальнай адказнасці. Гэта анамалія самога грамадства, але дэградуе і ўлада, няздольная папярэдзіць злачыннасць. Наша краіна займае перадавыя пазіцыі ў Еўропе і па адстрэлу сваіх грамадзянаў. Я ўпэўнены, што нам неабходна ліквідаваць інстытут пазбаўлення чалавека жыцця. Смяротная кара не ў стане спыніць злачыннасць. Заходнія псіхіятары-крыміналісты, якія вывучалі гэтае пытанне, прыйшлі да высновы, што ніводзін з асуджаных перад забойствам не думаў пра магчымасць расплаты смяротнай карай. Многія спадзяюцца застацца непакаранымі. Пасля адмены вышэйшай меры ў краінах не расце колькасць цяжкіх злачынстваў. Здавалася б, танней расстраляць чалавека ды закапаць. Але грамадства такім чынам закопвае сябе. Нам неабходна павярнуцца да гуманізму і чалавечнасці.

## Хто адкажа за памылку?

Найбольшую колькасць смяротных прыгавораў выносіць Мінскі гарадскі суд. У мінулым годзе іх было 9. Увогуле па краіне толькі 7 працэнтаў справаў, якія падпадаюць пад «вышку», заканчваюцца смяротным прысудам.

Як распавялі ў Мінскім абласным судзе, цяпер кожнаму з 12 суддзяў даводзіцца штомесяц разглядаць амаль па дзве крымінальныя справы, звязаныя з забойствам. Адны злачынцы атрымоўваюць 15 гадоў турэмнага зняволення, другія — вышэйшую меру. З нядаўняга часу дазволена даваць 25 гадоў альбо пажыццёвае турэмнае зняволенне. Здараецца, што некалькі ўдзельнікаў аднаго забойства атрымоўваюць рознае пакаранне. Але ў такіх умовах, калі не кожны забойца павінен памерці, узнікаюць сумненні ў справядлівасці адбору тых, хто павінен быць расстраляны. Чалавеку характэрна памыляцца ў сваіх высновах. Адвакат можа мець меншую кваліфікацыю, суддзя можа быць больш строгім, а пракурор больш жорсткім. На прысуд могуць уздзейнічаць і іншыя фактары. Самае страшнае, што смяротная кара ўжо не дазваляе выправіць памылку. Як лічаць юрысты, ніводная сістэма крымінальнага правасуддзя не застрахаваная ад гэтых памылак, хаця ў нашай краіне, як і ў савецкія часы, дэманструецца беспамылковасць суда.

Але прыгадаем прыклады з недалёкага мінулага, калі па сенсацыйнай «віцебскай справе» былі пакараныя невінаватыя (аднаго з іх расстралялі). Яшчэ адзін прыклад — справа Тойсева, прыгаворанага да смяротнага пакарання за забойства. Следства атрымала прызнанне Тойсева шляхам незаконнага правядзення начных допытаў. Для атрымання дадатковых доказаў следчыя збілі ягонага 15-гадовага брата. Калі ж знайшлі сапраўднага злачынцу, былі знішчаныя папярэднія матэрыялы справы. Прысуд Тойсеву змякчылі толькі праз паўтара года чакання смяротнага прысуду, а правёў ён у турме 14 гадоў і 8 месяцаў.

На так званым рэферэндуме людзі прагаласавалі за «вышку» (амаль 83 працэнты, згодна афіцыйных падлікаў), разлічваючы, што жорсткасць пакарання можа абараніць іх ад злачыннасці. Суды ўсё ж спадзяваліся на прыпыненне смяротнага канвеера. Пасылаць чалавека на расстрэл псіхалагічна цяжка, асабліва суддзі-жанчыне. Юрысты мяркуюць, што суддзі будуць цяпер часцей прызначаць пажыццёвае зняволенне. Але, як сцвярджаў на нядаўняй калегіі старшыня Вярхоўнага суда Валянцін Сукала, для выканання такога прысуду не створана адпаведная інфраструктура. Асуджаным патрэбна прадаставіць камеру, адну на дваіх, даць ім магчымасць працаваць. Чыноўнікі сцвярджаюць, што ў дзяржавы няма грошай, каб спыніць смяротныя пакаранні.

## Судзіць – не расстрэльваць

Кажуць, абласному суду лягчэй вынесці смяротны прысуд, бо ёсць яшчэ вышэйшая інстанцыя, якая ставіць апошнюю кропку. Суддзі Вярхоўнага суда стараюцца адкруціцца ад такіх справаў, але службовыя абавязкі прымушаюць за іх брацца. Пасля вывучэння справы асуджанага дастаўляюць у ВС, задаюць пытанні і зноў аб'яўляюць той жа прысуд. Асуджаны звычайна ўвесь час сядзіць апусціўшы галаву, і, як заўважыў адзін суддзя, ніколі не ўдаецца ўбачыць ягоных вачэй. Смертнікі выглядаюць вельмі стомленымі і схуднелымі. Пасля абвяшчэння смяротнага прыгавору суддзям дазваляюць пайсці дахаты і адпачыць.

**Найбольшую колькасць смяротных прысудаў, працуючы ў Мінскім гарадскім судзе, вынес Уладзімір Чамрукоў. З нядаўняга часу ён з'яўляецца суддзёй Вярхоўнага суда.**

— Вышэйшая мера — гэта слабасць дзяржавы, — лічыць суддзя Чамрукоў. — Менавіта па гэтай прычыне такая норма ўтрымліваецца ў Крымінальным кодэксе. У нас яшчэ слабыя іншыя інстытуты, якія маглі б прывесці грамадства ў нармальны стан. Мне, па характару мяккаму чалавеку, няпроста давалася вынясенне смяротных прыгавораў. Добра памятаю першы такі выпадак. Гэта была справа Бабінава і Свіркова, якія забілі пажылую жанчыну, яе нявестку і шасцігадовага Стасіка, потым падпалілі дом, каб замесці сляды. Абодвух суд прыгаварыў да вышэйшай меры пакарання. Назаўтра я пачаў галіцца і ўбачыў, што ўсё цела пакрыта чырвонымі плямамі. Нервовы стан звычайна такі, што не хочацца датыкацца да ежы. Іншы раз, калі аб'яўляеш прысуд, хочацца як мага хутчэй яго прачытаць і выйсці запаліць цыгарэту. Гэтая працэдура вельмі непрыемная. Я асабліва баяўся і баюся за родных асуджанага. Я не сумняваюся ні ў адным вынесеным прыгаворы, але пасля яго пачынаюць дрыжэць рукі. Вельмі цяжка бачыць слёзы, плач, страту прытомнасці маці асуджанага, даводзіцца выклікаць «хуткую дапамогу». Асабліва цяжка глядзець у вочы прыгаворанага, якія адразу становяцца нейкімі шалёнымі. Звычайна пасля аб'яўлення вышкі ў зале наступае грабавая цішыня і толькі чуваць, як нехта ўпаў альбо ўсхліпнуў. Асуджаныя таксама вядуць сябе па-рознаму, пачынаюць рваць на сабе адзенне, лезці на клетку, істэрычна крычаць. Адны маўчаць, а некаторыя заяўляюць, што ўчынілі вельмі цяжкае злачынства, пагэтаму не маюць права жыць.

Калі ёсць хоць нейкая магчымасць выратаваць жыццё чалавека, даць яму шанц выправіцца, суд прызначае злачынцу пэўны тэрмін турэмнага зняволення. З другога боку, турма звычайна робіць чалавека яшчэ больш жорсткім і злым. Грамадства можа пацярпець ад таго, што верне гэтага чалавека.

## Права маці на жыццё сына

Родныя пацярпеўшага і абвінавачваемага сустракаюцца ў зале суда. Кожны бок спадзяецца на перамогу справядлівасці.

Нядаўна ў Мінскім абласным судзе веруючая жанчына прасіла не прызначаць вышэйшай меры забойцу яе сына. Іншыя, наадварот, настойліва патрабуюць расстрэлу.

Ужо 6 месяцаў знаходзіцца ў камеры смяротнікаў 30-гадовы сын Марыі Стасяловіч, работніцы Смалявіцкай птушкафабрыкі. Яе Ігару прызначылі «вышку» за забойства. Адзін саўдзельнік скончыў жыццё самагубствам пры затрыманні, астатнія прыгавораныя да 15 гадоў турмы, а Ігару Стасяловічу далі расстрэл. Вярхоўны суд пацвердзіў ранейшы прысуд. Марыя Стасяловіч кажа, што ВС не стаў разглядаць пісьмо з просьбай аб памілаванні яе сына, якое падпісалі больш за сто аднавяскоўцаў. Марыя Стасяловіч лічыць, што ў нашай краіне *«расстрэльваюць толькі бедных, а багатыя могуць абараніцца доларамі»*. Жанчына выхоўвалася ў дзіцячым доме і 27 гадоў адпрацавала на фабрыцы. *«Усё здароўе аддала дзяржаве і нічога не маю, нават веласіпед не магу купіць,* — кажа М.Стасяловіч. — *Цяпер дзяржава адбірае ў мяне адзінага сына. Хай бы яму хоць 25 гадоў далі. Я б ведала, што мае вочы зачыняцца раней, чым ягоныя».*

Марыя Стасяловіч напісала шмат пісьмаў (у КДБ, Савет бяспекі, прэзідэнту), скардзячыся на рашэнне суда, але не атрымала адказу. А Вярхоўны суд пацвярджае, што яе сына немагчыма перавыхаваць, таму застаецца толькі расстраляць. Яна прыгадвае, як пасля абвяшчэння прысуду Ігар быццам акамянеў і міліцыянты літаральна цягнулі яго з залы суда. Цяпер у час спатканняў ён плача, папрасіў прынесці фотаздымак свайго сына. Маці не можа паверыць, што яе сына немагчыма выправіць і неабходна расстраляць. *«На каленях прашу ў той маці, якая згубіла сваё дзіця, каб даравала мне і майму сыну,* — кажа жанчына. — *Прашу ўсіх, каб зразумелі маю больку, што і я губляю дзіця».* Усе 6 месяцаў Марыя Стасяловіч змагаецца за жыццё Ігара. Няўжо і гэтая трагедыя скончыцца жудасным расстрэлам?

*На здымку: 26-гадовы маньяк-забойца Ігар Меранкоў, які забіў у Светлагорску на працягу 1991-93 гг. шасцярых школьнікаў, быў асуджаны ў жніўні 1995 г. да вышэйшай меры пакарання.*
*У час судовага працэсу маці забітага хлопчыка паставіла фотаздымак сына перад вачыма злачынцы.*

 

*Алімпіяда*

# Высока ўзляцелі – паветра не хапае

У цэнтры ўвагі беларускіх аматараў спорту застаецца выступленне нашай хакейнай зборнай на XVIII Зімовых Алімпійскіх гульнях у Нагана (Японія). Пасля трыумфальнай гульні на першым этапе беларусы выйшлі ў другі, дзе іх сапернікамі па групе сталі каманды Канады, ЗША і Швецыі, якія амаль цалкам складаюцца з лепшых прафесіяналаў *NHL*. «Амаль» адносіцца толькі да шведаў. Узгадаем, што канадцы і амерыканцы гулялі ў фінале Кубка свету-96. Так што цяпер нашыя хлопцы праверылі сваё майстэрства на самым высокім узроўні, які толькі існуе ў сьвеце хакею.

Прайгралі ўсім: Канадзе — 0:5, ЗША — 2:5, Швецыі — 2:5. (У сераду зборная Беларусі правядзе чвэрцьфінальны матч супраць каманды Расіі). Але гэта былі розныя гульні, розныя паражэнні. У першай супраць канадцаў у дзеяннях беларускіх хакеістаў дамінавалі баязлівасць, разгубленасць, няўпэўненасць у сваёй моцы. Гуляючы ў колькаснай большасці, нашыя ніяк не маглі наладзіць розыгрыш шайбы ў чужой зоне, мала таго, памыляліся больш звычайнага і прапускалі выніковыя выпады сапернікаў. З амерыканцамі 4 галы з 5 прапусцілі, гуляючы ў меншасці. Аднак па ходу матчу, калі лік быў 1:2, 2:3, зборная Беларусі мела добрыя магчымасці зраўняць сітуацыю, а па гульні і наогул часам пераўзыходзіла ўладальнікаў Кубка свету. Але недахоп вопыту выступленняў на такім узроўні і, безумоўна, прабелы ў некаторых пакаментэнтах майстэрства не дазволілі нашым дасягнуць поспеху. Аднак усе спецыялісты ў адзін голас загаварылі аб тым, што гульня беларускай каманды — гэта сапраўдны сюрпрыз, сенсацыя Алімпіяды, што ў нашых хлопцаў добрыя перспектывы, і магчыма, хутка з імі прыйдзецца лічыцца ўсур'ёз.

Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка прыляцеў у Нагана якраз пасля перамогі хакеістаў у папярэдніх матчах і заваявання бронзавага медаля біятланістам Аляксеем Айдаравым, каб пазіхацець у промнях хакейна-біятлоннай славы і адхапіць сабе немалы яе кавалак. Кожны дзень БТ дэманструе разгорнутыя інтэрв'ю прэзідэнта, у якіх ён бессаромна расказвае, як настаўляў хакеістаў на шлях ісціны і ў перапынках паміж перыядамі, і на трэніроўках. А то трэнеры ў нас пастухі, а хакеісты — няўмекі, што рабіць з шайбай на лёдзе самі не ведаюць, дык хоць Рыгоравіч падкажа... Ён і сказаў: «Будзе пот, будзе кроў, будуць пераломы...» Такія вось настаўленні...

Другая гонка біятланістаў на 7,5 км не прынесла нам задавальнення. І калі 22-е месца Ірыны Тананайкі, якая чыста адстралялася на двух агнявых рубяжах, можна расцэньваць як высокае (усяго стартавала больш за 60 спартсменак), то 24-е месца вопытнай Святланы Парамыгінай — яўная няўдача.

У лыжнай гонцы праследавання на 15 км Аляксандр Саннікаў стартаваў 36-м (месца, занятае ім у гонцы на 10 км), а фінішаваў 26-м. На жаль, другі наш лыжнік Аляксей Трыгубаў упаў на спуску і зламаў на руцэ палец.

Канькабежка Анжэла Кацюга ў бегу на 500 метраў устанавіла рэкорд краіны — 39,76 секунды, а па суме двух дзён заняла адносна высокае, 16-е месца сярод 38-і ўдзельніцаў. Людміла Касцюкевіч паказала тут 31-ы вынік.

І самая абнадзейваючая навіна: адразу два нашыя лыжныя акрабаты — Дзмітрый Дашчынскі і Аляксей Грышын — прабіліся ў лік 12-ці фіналістаў у спаборніцтвах па фрыстайле. Прычым Дашчынскі сенсацыйна выйграў папярэднія спаборніцтвы, а Грышын заняў у іх 9-е месца. Шкада, што вопыты Васіль Вараб'ёў спыніўся ў кроку ад фіналу — 13-я пазіцыя. Праўда, у сераду, у фінале папярэднія балы не ўлічваюцца, і барацьба там пачнецца з нуля.

**Сямён ПЛОЦ**

## У Нагана – эпідэмія грыпу

**Эпідэмія грыпу імгненна ахапіла японскі Нагана. Ужо памерла шэсць дзяцей, зачынена некалькі школ. Закрануў грып і спартсменаў. Хвароба «зваліла з ног» канькабежцаў Седрыка Кунца (Францыя) і Адне Сандрала (Нарвегія), нямецкую фігурыстку Таню Шаўчэнка. І гэта, відаць, толькі пачатак.**

**Арганізатары папярэджвалі гасцей аб магчымасці захворванняў, аднак да пачатку Алімпіяды вірус яшчэ не быў «зафіксаваны», і цяпер дактары многіх зборных у поўным замяшальніцтве. Але Арганізацыйны камітэт Гульняў просіць не хваляваццa і рэкамендуе спартсменам «піць больш вадкасці і трымаць цяпло ў пакоях...»**

# Даты і лёсы

*17 лютага*

**1673.** Памёр вялікі французскі драматург і акцёр Жан-Батыст Мальер. Ён страціў прытомнасць на сцэне — падчас спектакля паводле сваёй п'есы «Прыкінуўся хворым» — і ў той жа вечар памёр.

**1856.** Нарадзіўся Фрэдэрык Юджын Айвз, амерыканскі вынаходнік друкарскай тэхналогіі, якая дазволіла публікаваць у газетах фотаздымкі.

**1883.** Англічанін А.Ашвел запатэнтаваў засаўкі для прыбіральняў з надпісамі «Свабодна/Занята» (*Vacant/Engaged*).

**1903.** У Гародні страйкавалі ўсе фабрыкі. Каля 10 тысячаў чалавек сабраліся на пахаванне папулярнага ў горадзе лекара Ю.Банецкага, якога духавенства адмовілася хаваць. Пахавальная працэсія ператварылася ў палітычную дэманстрацыю супраць самадзяржаўя і нацыянальнага прыгнёту.

**1923.** Нарадзіўся англійскі навуковец Джон Алегра, аўтар нашумелай кнігі «Святы грыб»(1970), дзе ён даводзіць, што ўсе рэлігіі старажытнасці скарыстоўвалі ў сваіх рытуалах наркатычныя рэчывы, атрыманыя пераважна з грыбоў.

*18 лютага*

**1893.** Нарадзіўся вядомы беларускі пісьменнік, глыбокі псіхолаг Максім Гарэцкі. Перакладаў на родную мову, сярод іншага, творы Леніна, але гэта не ўратавала яго ад рэпрэсіяў і смерці ў ГУЛАГу.

**1898.** У Мінску было створана Таварыства аматараў прыгожых мастацтваў.

**1898.** Нарадзіўся знакаміты італьянскі аўтагоншчык Энца Фэрары. Ён перамагаў на розных спаборніцтвах каля 4.000 разоў і 13 разоў здабыў тытул чэмпіёна свету. Спачатку Фэрары працаваў выпрабавальнікам новых мадэляў у фірме *Alfa Romeo*, а потым заснаваў уласную кампанію па вытворчасці спартовых аўтамабіляў.

**1903.** Нарадзіўся партыйны і дзяржаўны дзеяч Васіль Казлоў, які 20 гадоў (1947—1967) займаў пасаду Старшыні Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР і намесніка Старшыні Прэзідыума ВС СССР. У гады вайны ўзначальваў партызанскі рух на тэрыторыі Мінскай вобласці. Дарэчы, у адзін дзень з Казловым нарадзіўся ягоны непасрэдны начальнік Мікалай Падгорны, Старшыня Прэзідыума ВС СССР.

**1908.** Нарадзіўся кінарэжысёр Аляксандр Зархі, аўтар фільмаў «Несцерка», «Анна Карэніна» ды інш.

**1918.** Войскі кайзераўскай Германіі, парушыўшы дагавор пра перамір'е, пачалі акупацыю цэнтральнай і ўсходняй Беларусі; бальшавікі і савецкія вайсковыя часці пакінулі Мінск. У той жа дзень Беларуская Рада ў Вільні апублікавала дэкларацыю пра разрыў адносінаў з Расіяй і заклікала да ўтварэння незалежнай Беларуска-Літоўскай дзяржавы.

**1930.** Амерыканскі астраном Клайд Томбоў адкрыў планету Плутон.

*19 лютага*

**1473.** Нарадзіўся польскі астраном Мікалай Капернік, які распацаваў геліяцэнтрычную тэорыю Сусвету: ён даводзіў, што не Сонца круціцца вакол Зямлі, а мы і іншыя планеты круцімся вакол Сонца.

**1800.** Напалеон скасаваў французскі ўрад і абвясціў сябе Першым консулам, што, па сутнасці, азначала ўсталяванне ягонай асабістай дыктатуры.

**1918.** Пасля эвакуацыі СНК Заходняй вобласці і фронту ў Смаленск улада ў Мінску на тыдзень (да ўступлення ў горад германскіх войскаў) перайшла да Выканаўчага камітэта Рады Усебеларускага з'езда, разагнанага раней бальшавікамі.

**1936.** У Мінску былі арыштаваны (і праз чатыры гады следства закатаваны) палітычны сакратар ЦК КПЗБ Іосіф Лагіновіч: НКВД быў патрэбны кампрамат на кіраўнікоў партыйнага і савецкага апарату БССР — Чарвякова, Галадзеда ды інш.

**1937.** Надзвычайны 12-ты Усебеларускі з'езд Саветаў зацвердзіў новую Канстытуцыю БССР.

**1940.** Галоўнае дзяржаўнае свята Туркменістана — дзень нараджэння Туркменбашы Сапурмурата Ніязава — прэзідэнта, прэм'ер-міністра, старшыні Савета старэйшынаў, вярхоўнага галоўнакамандуючага, старшыні Савета абароны і Савета нацыянальнай бяспекі і г.д. Ніязаў ужо двойчы ўзнагародзіў сябе званнем Героя Туркменістана (і кожны раз клаў у кішэню па 100 тысяч долараў). Пакуль што гэтае ганаровае званне мае толькі ён.

*Падрыхтаваў* **Юрась БАРЫСЕВІЧ**

## Камуна-ленінцаў блаславіў святар

**Нягледзячы на ўсе перашкоды, праз пяць гадоў ад пачатку будаўніцтва адчыніла дзверы новая Камуна-Ленінская школа, што ў Чачэрскім раёне Гомельскай вобласці.**

Летась даўгабуд ледзь не ўзляцеў у паветра, калі экскаватар выцягнуў з траншэі велізарную авіябомбу часоў Другой сусветнай вайны. І вось шматгадовыя блуканні скончыліся: школа пачала працу. Айцец Валерый, асвяціўшы сцены школы, блаславіў дзяцей на добрую вучобу, а калгасныя і вертыкальныя ўлады падаравалі школьнікам музычны цэнтр і тэлевізар. Кожны вучань атрымаў зубную шчотку ад мясцовага медычнага аб'яднання.

**Уладзімір ВАЛЕЎСКІ**

## Палігон «Барацьба»

**Зрываецца ўвод у эксплуатацыю экалагічна важнага для Гомельшчыны аб'екта — палігона для захавання бытавых і прамысловых нетаксічных адходаў.**

Будаўніцтва гэтага вялікага сметніка было распачатае яшчэ ў 1993 годзе непадалёк ад выселенай вёскі Барацьба Веткаўскага раёна. Гіганцкая звалка плошчай у 31 гектар разлічаная на 25-гадовы тэрмін эксплуатацыі і будзе перапрацоўваць па 53 тысячы тон адходаў у год. Абслугоўваць палігон павінны 36 чалавек.

Нягледзячы на тое, што паводле плана першыя адходы аб'ект мусіць прыняць не пазней за 1 ліпеня 1998 года, на цяперашні час нават не распачалі будаўніцтва аб'язной дарогі, на якую патрэбна каля 40 млрд. рублёў. Недабудаваны інжынерна-бытавы корпус, насосная станцыя і ачышчальныя збудаванні, не падведзены электрычнасць і сувязь. За шматлікія парушэнні Дзяржаўная інспекцыя працы яшчэ тры гады таму назад штрафавала будаўнікоў і прыпыняла работы. А не так даўно тут адбыўся няшчасны выпадак: перакуліўся аўтагрэйдэр з кіроўцам.

Пры гэтым Гомельшчына сёння мае найбольш неўпарадкаваных адходаў, якія ствараюць сур'ёзную небяспеку для экалогіі.

**Уладзімір ВАЛЕЎСКІ**

## Вялікая нафта – вялікі крымінал

**20 работнікаў Мазырскай нафтабазы прыцягваюцца да крымінальнай адказнасці за буйныя крадзяжы нафтапрадуктаў.**

Адзін з кіраўнікоў нафтабазы стварыў злачынны сіндыкат, які меў добра наладжаную структуру. Кожны з удзельнікаў групы выконваў канкрэтную ролю ў незаконным збыце. Групоўку выкрыла ўпраўленне па арганізаванай злачыннасці, меру адказнасці кожнага вызначыць суд.

**Уладзімір ВАЛЕЎСКІ**

## Дарослыя не могуць абараніць дзяцей

**Дзеці — самыя безабаронныя жыхары нашай краіны. У Магілёўскай вобласці пастаянна фіксуюцца выпадкі гвалту над непаўналетнімі.**

У Быхаве арыштаваны мужчына, які згвалтаваў 6-гадовую дзяўчынку на вачах у яе 4-гадовай сястры. Як сведчыць крымінальная хроніка, падобныя выпадкі адбываюцца ў вобласці прыкладна раз у некалькі месяцаў. Насцярожвае таксама наступная акалічнасць: іх не становіцца менш, нягледзячы на тое, што кожны раз злачынцу знаходзяць. Так, толькі за апошнія паўтара года тут асуджаны да смяротнай кары трое злачынцаў, якія, згвалтаваўшы, забілі сваіх маленькіх ахвяраў.

*БелаПАН*



© НАВІНЫ. Спасылка на газету НАВІНЫ абавязковая. Падпісны індэкс 63312 E-mail: edit@svaboda.minsk.by Пасведчанне аб рэгістрацыі № 996. Юрыдычны адрас рэдакцыі: г.Мінск, пр-т газеты «Известия», 8-173.
Надрукавана на паліграфічнай фабрыцы «Чырвоная зорка» ВПП імя Я.Коласа (220073 г.Мінск, 1-шы Загарадны завулак, 3) Заказ 1152 Нумар падпісаны ў друк 16.02.98 (15:00) Наклад — 12.900